

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

15 (161) КАСТРЫЧНІК 2013 ГОД


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ПАД ПАГРОЗАЙ ДЭВАЛЬВАЦЫІ

**Кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка абвінавaціў беларускі "народзец" у пагрозе чарговай дэвальвацыі. Але хто насамрэч робіць дэвальвацыю, друкуючы нічым не забяспечаныя грашовыя знакі?**

Дэвальвацыя (ад лац. De - паніжэнне і valeo - мець значэнне, каштаваць) - зніжэнне курсу валюты краіны ў адносінах да цвёрдых валют, міжнародным падліковым грашовым адзінкам, памяншэнне рэальнага залатога ўтрымання грашовай адзінкі. Прасцей кажучы, дэвальвацыя – гэта сніжэнне, абясцэньванне грошай, у даным выпадку беларускага рубля, які прынята лічыць нацыянальнай валютай.

Чаму ў Беларусі дэвальвацыя кожны раз становіцца непазбежнай? Беларусаў ужо падманвалі дэвальвацыяй ў 2009 годзе і 2011-м. Наступствы эканамічнай авантуры старшыні Нацбанка Пятра Пракаповіча адчулі нават даверлівыя пенсіянеры, якія па старой савецкай завядзёнцы захоўвалі свае сціплыя зберажэнні ў "ашчаднай касе". Замест абяцанага абясцэньвання рубля ў 5% (гэтак званага курсавога калідора к даляру ЗША) ён абваліўся ў лічаныя дні новага 2009 года больш чым на 20%.

Але і тады, і цяпер насельніцтва таксама не спала ў шапку: змятала ўсё з прылаўкаў за свае кроўныя "зайчыкі" па "данавагодняй цане". У абменніках утварыліся даўжэзныя чэргі, людзі скупілі ўсю валюту – але яе ўсім не хапіла. У 2011 годзе грымнуў яшчэ адзін крызіс грашовай стэмы, на гэты раз ужо трохкратная дэвальвацыя – рубель абясцэніўся аж на 55%. Найбольш пацярпелі ўкладчыкі, якія страцілі ў дзяржбанках зберажэнні ў беларускіх рублях. У перавод на даляры атрымліваецца ўнушальная сума – да 1,7 мільярдаў.

Але самыя крыўдныя страты былі ў старых людзей. Пенсіянеры плакалі: як жа так? Зноў аднялі самае святое – грабавыя. Калі было два мільёны, дык застаўся адзін. А што было рабіць, мяняць на даляры і хаваць пад матрац? За даляры хлеб у райпо і лекі ў аптэках не прадаюць, ды і гроб не купіш, а па абменнікам бегаць – няма здароўя.

Дарэчы, Лукашэнка нядаўна папракнуў тых грамадзян, якія мяняюць "зайчыкі" на цвёрдую валюту. Маўляў, яны не давяраюць нашаму рублю, а больш замежнай валюце, чым айчынны рубель і заняпаў. Аднак у чым сапраўдная прычына развалу айчыннай фінансавай сістэмы?

Шэраг беларускіх незалежных эканамістаў і фінансістаў: Леанід Заіка, Станіслаў Багданкевіч, Леанід Злотнікаў, Барыс Жаліба і інш. крытычна ставяцца да папулісцкай палітыкі кіраўніка Беларусі. Колькі б ён людзей не супакойваў, аднак усе бачаць, што менавіта яго Урад і Нацбанк давёў прадпрыемствы і краіну да поўнага банкрутства. Замежныя даўгі таксама вісяць цяжарам: на кожнага беларуса прыходзіцца па тры тысячы даляраў. Менавіта па яго загадам друкуюцца вагоны пустых, нічым не забяспечаных грошай і раздаюцца ўсім суб'ектам гаспадарання. Прычым незалежна ад таго, зробленыя яны рэальнай працай, рэалізаванай прадукцыяй, альбо работнікі наўпрост лічыліся на працоўных месцах, трымалі неканкурэнтназдольныя тавары на складзе і атрымлівалі гарантаваную пайку ў выглядзе акладаў. Многія гора-кіраўнікі мадэрнізацыю прадпрыемстваў так і не не правoдзілі, а высокакваліфікаваных работнікаў і спецыялістаў наогул выгналі з краіны. Разумныя людзі ў Беларусі ім не патрэбны. Засталіся калгаснікі, работнікі бюджэтнай сферы, пенсіянеры ды чыноўнікі-бюракраты.

Недавер грамадзян да беларускага рубля, які друкуецца па загаду Лукашэнкі – гэта і ёсць недавер народа Беларусі да яго палітыкі ўвогуле. Нават расейскія эксперты з Мінэканомікі РФ не выключаюць значную дэвальвацыю беларускага рубля да 37% у 2014 годзе. Адпаведна істотнае зніжэнне кошту беларускага рубля прывядзе да росту інфляцыі, якая па выніках года складзе 20-21%, што негатыўна адаб'ецца на пакупніцкай здольнасці заробкаў і даходах насельніцтва. Рост рэальных наяўных даходаў па выніках 2014 рэзка скароціцца да 2,2%.

А што яшчэ можа быць у краіне, якая па працягу года стала зарабляць на 20% менш валюты, але пры гэтым плаціць зарплату ва ўласных рублях на 20% больш? Дарэчы, сам Лукашэнка прызнаўся, што "калі людзям надакучылі лішнія нулі на купюрах, то мы яе (дэнамінацыю) зробім. Гэта чыста тэхнічны момант". Новыя купюры ў рэспубліцы нібыта ўжо надрукаваныя. Вось толькі хто дасць гарантыю, што пра пару месяцаў яны зноў не ператворацца ў пустыя фанцікі з дзесяткамі нулёў?

**Аляксандр Шчамлёў**

ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## ЭКАНОМІЦЬ ПАКУЛЬ НЕ НАВУЧЫЛІСЯ

**У Шумілінскім раёне не выкананы планавыя заданні па эканоміі энергарэсурсаў. Нягледзячы на прынятыя меры па мадэрнізацыі і аднаўленні абсталявання ЖКГ, страты цеплаэнергіі ў раёне працягваюць расці.**

Паводле даклада начальніка аддзела камунальнай службы райвыканкама Васіля Селязнёва, шэраг запланаваных мерапрыемстваў па энергазберажэнні і эфектыўным выкарыстанні паліўна-энергетычных рэсурсаў у раёне не выкананы. Страты цеплаэнергіі складаюць 19,6%, у той час, як сярэднеабласны паказчык саставіў 16%.

Найперш гэта тычыцца праграмы энергазберажэння. Так, за восем месяцаў удалося дабіцца эканоміі – 137,9 тоны ўмоўнага паліва (15,8%). У Шумілінскім камунгасе павялічылі выкарыстанне мясцовых відаў паліва, давёўшы яго амаль да 52%. Аднак планавае заданне ў 57% пакуль не выканана.

Праўда і тое, што адказныя асобы скардзіліся на занадта завышаныя планы, даведзеныя раёну ў гэтым годзе. Да прыкладу, камунальнай службе давялі заданне па пракладцы гібкіх поліэтыленавых і папярэдне ізаляваных труб – 6,4 км. А на сённяшні дзень пракладзена ўсяго 2,1 км.

Асаблівы ўпор зроблены на эфектыўныя катлы, якія працуюць на шчапе. У гэтым выпадку за год можна будзе эканоміць 451 тону ўмоўнага паліва. Сёлета новыя катлы на мясцовых відах паліва ўстаноўлены ў аграгарадку Слабада, на кацельных Мішневіцкай і Мішкаўскай школ, капітальна адрамантаваны "шчапавыя" катлы на цэнтральнай кацельні.

Тым больш, што шчапу наша жыллёва-камунальная гаспадарка нарыхтоўвае самастойна, маючы для гэтага ўсю неабходную тэхніку. Дарэчы, з лістапада ўсе звышнарматыўныя страты будуць аплочваць вінаватыя прадпрыемствы. Ужо выяўлены сумна вядомыя лідэры. У ААТ "Прыазёрны мір" па электраэнергіі атрымалася не эканомія 6%, як патрабавалася, а перарасход ажно на 25%.

**Я.Вайтовіч**

АЦЯПЛЯЛЬНЫ СЕЗОН

## КАЦЕЛЬНІ ДА АЦЯПЛЯЛЬНАГА СЕЗОНУ ГАТОВЫЯ

**Як паведаміў першы намеснік начальніка ўпраўлення ЖКГ аблвыканкама Дзмітрый Герасімаў, да ацяпляльнага сезона праведзены практычна ўсе неабходныя падрыхтоўчыя працы. Падпісанне пашпартоў гатоўнасці аб'ектаў у поўным аб'ёме будзе завершана да 1 кастрычніка.**

У міжсезонне рэканструяваліся 6 кацельняў з пераводам катлоў на мясцовыя віды паліва. Адна з іх ужо ўведзена ў эксплуатацыю ў Чашніках. У Гарадку, Расонах, Глыбокім, Талачыне, Шуміліна яны запрацуюць да 15 кастрычніка. Таксама замененыя парадку 85 км цеплавых сетак, праведзены гідраўлічныя выпрабаванні кацельнага абсталявання, сістэм ацяплення цеплавых сетак спажыўцоў. Запасы драўнiннага паліва нарыхтаваны на 92% ад запланаванага аб'ёму.

Як звычайна, першымі цяпло атрымаюць дашкольныя і школьныя ўстановы, дамы-інтэрнаты, бальніцы, музеі, бібліятэкі. Затым на чарзе - жыллёвы фонд. Варта ўлічваць таксама, што тут гэты працэс праходзіць паэтапна на працягу трох сутак. Далей да ацяплення будуць падлучаныя вытворчыя, адміністрацыйныя і офісныя памяшканні.

Паводле дзейных сёння нормам яно павінна быць пададзена, калі сярэднесутачная тэмпература пратрымаецца ў такім рэжыме + 8 градусаў і ніжэй не менш за 5 дзён. Дарэчы, у мінулым годзе падключэнне жылога фонду пачалося ў канцы першай дэкады кастрычніка.

**Я. Вайтовіч**

ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

## ДЫПЛОМ ЗА ЛЕПШУЮ КНІГУ

**Шумілінскі краязнаўца Віктар Улюценка атрымаў дыплом лаўрэата рэспубліканскага конкурсу на лепшую публікацыю па экалагічнай тэматыцы.**

Шаноўную ўзнагароду Віктар Улюценка атрымаў падчас урачыстага адкрыцця Дня беларускага пісьменства ў Быхаве, куды ён быў запрошаны разам з дэлегацыяй віцебскіх пісьменнікаў. Яго кніга "У краю каменных волатаў" названа лепшым творам 2012 года ў галіне краязнаўства.

Вядомы ў раёне пісьменнік пад псеўданімам Антон Параскевін не першы раз славіць славіць нашу Шуміліншчыну - сваю маленькую Радзіму. Землякам прыемна, што па яго творам людзі ведаюць пра Шуміліна не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Гэта толькі здаецца, што камянi маўчаць, запэўнівае нас аўтар. Калі палюбіць іх, паспрабаваць пачуць іх таямніцу, то яны змогуць расказаць нямала цікавага аб шматвяковай гісторыі краю.

Віктар Васільевіч лічыць, што валуны звязаны і з унутраным светам беларусаў. Валуны складаюць неад'емную частку ландшафту беларускай прыроды. Яны могуць многае расказаць пра геалагічнае мінулае і таямніцы роднага краю. Нездарма памяць нашых прадзедаў захавала дзіўныя легенды пра валуны.

Як элементы духоўнага і матэрыяльнага жыцця людзей многія валуны трапілі ў спіс помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.

**Сяржук Горкі**

ВАНДАЛІЗМ

# ПЛАТЫ ДОЎГА НЕ СТАЯЦЬ

**Ізноў у цэнтры Шуміліна пашкоджана бетонная агароджа. Разламаны ажурны пралёт.**

Паламаныя агароджы даўно ўжо не рэдкасць для нашага райцэнтра. На гэты раз чарговы акт вандалізму адбыўся ў райцэнтры на вуліцы Ленінскай каля дома № 16. Неўстаноўленыя зламыснікі разламалі верхнюю ажурную частку пралёта.

Пакуль што сведкаў здарэння знайсці не ўдалося. Як заўсёды – ніхто нічога не бачыў або не жадаў бачыць і чуць, што робіцца за дваром іх вуліцы. Некаторыя з грамадзян мяркуюць, што гэта няўдала разварочвалася машына, а магчыма і падлеткі ноччу выпрабоўвалі моц сваіх ног.



Дарэчы, тых хуліганаў, якія раней выбілі пралёты ажурнай агароджы напрыканцы жніўня на вуліцах Суворава і Сіпко, міліцыя дагэтуль не знайшла.

Безумоўна, органы дзяржаўнай улады клапоцяцца аб добраўпарадкаванні тэрыторый, каб той самы плот радаваў вока не толькі шумілінцаў, але і гасцей нашага раёна. Прычым за кошт падаткаплацельшчыкаў. А ў выніку што атрымліваецца? Самі ж шумілінцы па-ранейшаму пра-цягваюць знішчаць прыгожосць, на-носячы значны матэрыяльны ўрон раённаму бюджэту.

**Алесь Шумскі**

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# ШУМІЛІНШЧЫНА СЛАВІЦЦА СЫРАМІ

**Прадукцыя вытворчага цэха "Шумілінскія сыры" карыстаецца попытам не толькі ў вобласці, але і ва ўсёй Беларусі. Да 70% цвёрдых сыроў паспяхова рэалізуюцца і на экспарт у суседнюю Расію. Надаўна асвоілі выпуск новых відаў сыроў з арыгінальнымі арэхавымі прысмакамі.**

Шумілінскі філіял славіцца менавіта якасцю і натуральнасцю сваёй прадукцыі, асноўную частку якой складаюць сыры. Асаблівую папулярнасць маюць класічныя віды сыроў "Галандскі" і "Расейскі"– яны неаднаразова адзначаліся залатымі медалямі на міжнародных выставах і конкурсах.

Разам з тым вядзецца няспынная работа па ўдасканальванню прывычнай нам прадукцыі. Паводле начальніка Шумілінскага вытворчага цэха ААТ Малако г.Віцебск Аляксандра Мейсака, выпускаецца каля 20 відаў паўцвёрдых сыроў. Сярод іх ёсць і такія, што сталі ўжо класікай, да прыкладу, "Сливочный" і "Сметанковы". У іх нямала прыхільнікаў, як на радзіме, так і за мяжой.

Ёсць і свежыя для пакупніка прапановы. Так, нядаўна з'явіўся сыр "Дыетычны 20" . Калі першыя два названых выгляду валодаюць тлустасцю 50, новы выгляд сыру, па назве лёгка здагадацца, змяшчае 20 % тлушчу. Таксама варта адзначыць новыя віды сыроў, гэта – "Кальцбург", "Элегантны", "Гауда GRAND".

Што тычыцца працы над разнастайнасцю асартыменту, то на сённяшні дзень спажыўцу прапануецца два новыя віды сыру "Труфель GRAND" з папрыка" і "Труфель GRAND" з пажытнікам. Пажытнік - гэта насенне расліны, якое расце ў гарачых краінах. Дарэчы, у Еўропе яго даўно ўжываюць як дадатак да сыру. І хлеб з ім можна выпякаць. У выніку чаго прадукты набываюць вельмі арыгінальны арэхавы прысмак.

У чэрвені на конкурсе якасці ў горадзе Угліч былі прадстаўлены каля 170 сыраробаў з розных краін. Шумілінскія сыры " Кальцбург", "Сметанковы" і "Дыетычны 20" атрымалі "серабро".

**Алесь Шумскі**

ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

# КРАМЫ ПАПАЛІСЯ НА "ПРАТЭРМІНОЎЦЫ"

**Гэта паказалі вынікі вераснёўскіх праверак шасці суб'ектаў гандлю, якія былі праведзены чыноўнікамі ўпраўлення кантролю спажывецкага рынку гандлёвай інспекцыі па Віцебскай вобласці Мінгандлю Беларусі.**

У 22 з 26 правераных аб'ектаў гандлю былі выяўленыя пратэрмінаваныя тавары. Так, у пяці крамах гандлёвай арганізацыі "Віцебская універсальная база" дарэалізацыі ў верасні былі дапушчаныя 45 найменняў тавараў са скончаным тэрмінам прыдатнасці на суму 2,32 мільёна рублёў.

У наборы апынуліся і прадукты, у асноўным – малако згушчанае, кандытарскія вырабы, чорны кава, пельмені, і прамтавары - гелі для душа, крэмы для галення і іншае.

Аднак асаблівa "вызначыўся" ў ходзе праверкі Шумілінскі раён.

У лік "рэкардсменаў" па гэтаму віду парушэнняў ўвайшло Шумілінскага раённае спажывецкае таварыства, у пяці гандлёвых аб'ектах якога ў продажы знаходзіліся 80 найменняў пратэрмінаваных тавараў на суму 3,9 мільёна рублёў.

Прычым толькі ў краме № 9 вёскі Прыазёрная кантралюючым органам з прылаўкаў былі зняты тавары, у асноўным каўбасныя вырабы вараныя і паўвэнджаныя, мясныя паўфабрыкаты замарожаныя, на суму 1,9 мільёна рублёў.

Акрамя таго, падчас праверак зафіксаваныя і такія парушэнні, як адсутнасць у продажы тавараў, прадугледжаных асартыментным пералікам, а таксама аднастайных і выразна афармленых цэннікаў на некаторыя віды прадукцыі, інфармацыі пра нумар або прозвішча той, хто важыць на расфасаваных у гандлёвых аб'ектах таварах, кантрольных вагаў; наяўнасць ў продажы тавараў без інфармацыі для пакупніка пра дату вырабу і тэрмін прыдатнасці і іншыя парушэнні.

Па зафіксаваных фактах у верасні тэрытарыяльным аддзелам кантролю складзеныя пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях , і ў суды яны накіраваны ў дачыненні да 28 работнікаў і чатырох юрыдычных асоб . Па выніках асобных праверак да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнуты 33 работнікі гандлю.

Вынікам праверак гандлёвых аб'ектаў , праведзеных толькі ў жніўні, стала накладанне судамі штрафаў па 24 пратаколах на суму 15,75 мільёна рублёў.

**Алесь Прыбяржэны.**

ЗДАРЭННІ,КРЫМІНАЛ

# КІРОЎЦА НАЕХАЎ НА ЖАНЧЫНУ

**ДТЗ адбылося ў вёсцы Паўазер'е Бешанковіцкага раёна. 36-гадовы жыхар вёскі Сураўні, кіруючы Scania з паўпрычэпам, здзейсніў наезд на 45-гадовую жанчыну, якая ляжала на праезнай частцы.**

Як паведамілі ва УДАІ МУС, пешаход загінула. Кіроўца з месца здарэння ўцёк. Мужчыну ўдалося затрымаць падчас уведзенага плана "Перахоп".

У Дзяржаўтаінспекцыі звярнулі ўвагу: да адзення загінулай жанчыны флікер прымацаваны не быў, хаця ён знаходзіўся ў яе ў кішэні. Магчыма, калі б светлаадбівальны элемент ня быў схаваны, кіроўца меў бы шанец заўважыць жанчыну і прадухіліць наезд, лічаць інспектары.

"Часта ў падобных выпадках пешаходы, якія ляжаць на праезнай частцы, знаходзяцца ў стане моцнага алкагольнага ап'янення, – дапоўнілі ва УДАІ МУС. –У сувязі з гэтым Дзяржаўтаінспекцыя просіць усіх удзельнікаў руху: калі вы заўважылі пешаходаў, якія ляжаць на дарозе або якія знаходзяцца на праезнай частцы ў стане ап'янення, неадкладна паведаміце аб гэтым па тэлефоне 102. Магчыма, гэтым вы ўратуеце чалавеку жыццё".

Таксама інспектары папярэдзілі аб магчымай небяспекі на дарозе ў сувязі з прыходам восені і скарачэннем светлавога дня . Не ўсе пешаходы прывыклі да таго, што неўзабаве пасля канца працоўнага дня надыходзіць змрок і дарогу трэба пераходзіць больш уважліва.

**Па матэрыялах ДАІ**
**У. Амбросаў**

# У ЛЯСУ ЗНОЎ ЗАБЛУКАЛІ ПЕНСІЯНЕРКІ

**Пажылыя жанчыны з Віцебска, якія адправіліся ў лес ягады, заблудзіліся ў Шумілінскім раёне каля вёскі Барсукі.**

Як паведамляе Шумілінскі раённы аддзел надзвычайных сітуацый, ад дяжурнага РАУС у 16-14 паступіла паведамленне аб тым, што ў раёне вёскі Барсукі Лаўжанскага сельсавета Шумілінскага раёна заблукалі дзве грамадзянкі 1949 г. н. і 1932 г. н.

Пенсіянеркі пражывалі ў Віцебску. Яшчэ раніцай накіраваліся ў лес па журавіны, а праз некаторы час зразумелі, што заблудзіліся. Пажылыя жанчыны, адной з якіх было ўжо за 80 гадоў, самастойна выйсці з ляснога масіву не змаглі. Калі стала змяркацца, то вырашылі паведаміць у міліцыю.

Да месца меркаванага знаходжання заблукалых на аўтацыстэрне выехала аддзяленне Шумілінскага РАНС на адлегласць чатыры кіламетры. Сувязь з жанчынамі падтрымлівалася па мабільным тэлефоне. На шчасце, на гукавы сігнал АЦ у 20-45 заблукалым ягадніцам ўдалося выйсці з лесу.

Дарэчы, нашы транспамежныя калегі не выязджаюць на пошукі заблукалых. А калі грамадзяне жадаюць, каб у пошуку вашых блізкіх аказалі дапамогу работнікі МНС, прыйдзецца заплаціць вельмі вялікія грошы.

Варта дадаць, што ў падобных прыгодах састарэлых гора-ягадніц немалая віна і маладых. Тое, што блукаюць пажылыя, ляжыць на сумленні іх дзяцей і ўнукаў, якія не патлумачылі сваім састарэлым татам і мамам, бабулям і дзядулям, што восеньскія паходы ў невядомы лес могуць прывесці да непапраўнай бяды. Да таго ж гэтыя пошукі – значная праблема для супрацоўнікаў міліцыі. Да прыкладу, жыхарку з Обалі два гады таму шукалі больш за тыдзень. Прачэсвалі балота ля вёскі Ходараўка і мясцовыя жыхары, і супрацоўнікі міліцыі, і выратавальнікі, і вайскоўцы. З Віцебска нават вылецеў верталёт. Але знайшлі толькі куртку і вядро з ягадамі. Ці каштуе жыццё вядро ягад?

**Па матэрыялах МНС**
**Сяржук Горкі**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

"САМАЦЭНЗУРА"

# ЛУКАШЭНКА ТРАПІЎ ПАД ЦЭНЗУРУ

**Лукашэнка, як Ленін у СССР, стаў самым цэнзураваным аўтарам у краіне**

Аляксандр Лукашэнка зноў «ляпнуў». Гэтым разам наконт падтрымкі сям'і. Наведваючы БелАЗ у Жодзіне, ён сказаў:

«Мы зараз думаем, як падтрымаць жанчын. Сем'і як падтрымаць… Вось праект „Вялікая сям'я" мне прапанавалі. За першае дзіця — дзесяць тысяч долараў. За другое — дваццаць. За трэцяе — у два разы павялічваем. А калі яшчэ ты сам на гэты рахунак грошы кладзеш, то мы ў два разы больш даем».

Газэта «Наша ніва» падлічыла, што ў гэтым выпадку дзяржаве прыйшлосяб штогод выплачваць больш за 2 мільярды даляраў на дзяцей. Зразумела, гэта нерэальна. І самі ўлады гэта хутка зразумелі. Таму заява Лукашэнкі зазнала цэнзуру. На сайце прэзыдэнта, у інфармацыі БЕЛТА, у «Советской Белоруссии» гэтых словаў кіраўніка дзяржавы няма.

Сытуацыя характэрная для недэмакратычных рэжымаў. У СССР самая вялікая цэнзура існавала адносна Леніна, на якога афіцыйна амаль маліліся. Каля 4 тысяч матэрыялаў, напісаных правадыром усясьветнага пралетарыяту (гэта 6–7 тамоў) не былі надрукаваныя ў савецкія часы. У гэта цяжка паверыць, але Ленін быў самым забароненым аўтарам у краіне, у якой панавала ідэалёгія марксізму-ленінізму.

З Лукашэнкам праблемы ўзьніклі зь першых месяцаў кіраваньня. Узгадаем скандальнае выказваньне наконт Гітлера, ад якога старанна адхрышчваюцца ягоныя прыхільнікі. Альбо заява пра тое, што беларуская мова — бедная, на ёй «нельга выразіць штосьці вялікае». Праз два гады прэзыдэнт катэгарычна адмаўляўся ад гэтай фразы, абяцаў заплаціць мільён даляраў таму, хто пакажа, дзе і калі ён пагардліва казаў пра беларускую мову.

У 1997 годзе, адказваючы на пытаньне журналіста, чаму ён назваў Барыса Ельцына 80-гадовым, калі на самой справе яму было тады толькі 66 гадоў, Лукашэнка адказаў: «Сарвалася зь языка, разумееце? Экспромт быў… Як дадаў яму 15 гадоў, сам не разумею… Ну трэба ж вашу ўвагу чымсьці прыцягнуць. І вы адразу клюнулі».

У сваёй кнізе пра Лукашэнку я на цэлы разьдзел прыводжу прыклады, дзе Лукашэнка кажа пра тое, што, мякка кажучы, не адпавядае рэальнасьці. Як прапагандысту і папулісту ад прыроды, яму важна зрабіць прыгожую карцінку для аўдыторыі ў дадзены канкрэтны момант. Ён сам захапляецца сабой і ўжо ня можа спыніцца.

Здавалася б, столькі часу прабыўшы ва ўладзе, ён павінен быў зрабіцца больш абачлівым. Бо з-за сваёй празьмернай гаварлівасьцішматразоўтрапляў у непрыемныя сытуацыі.

Але, як вядома, чалавек — гэта стыль. Ён ня можа спыніцца, нават калі гэта шкодзіць ягонаму іміджу. Вось і пра пошліну ў 100 даляраў Лукашэнка сказаў: «Вось ляпнуў, сабе на шкоду, мусіць».

Аўтарытарны рэжым асабістай улады, калі ўсёўладны валадар знаходзіцца па-за крытыкай, робіць кепскую паслугу яму самому. У выніку кіраўнік Беларусі — адзіны чалавек у краіне, які не адказвае за свае словы. І, як ні парадаксальна, Лукашэнка, як Ленін у СССР, стаў самым цэнзураваным аўтарам у краіне. Дзяржаўныя мэдыі рэдагуюць яго больш, чым Пазьняка. І сьмех, і грэх.

Але калі палітык не адказвае за свае словы, то адбываецца дэвальвацыя ягоных публічных заяваў у вачах электарату. Зь іншага боку, як весьці справы зь Беларусьсю замежным палітыкам ці бізнэсоўцам, якія атрымліваюць асабістыя гарантыі ад Лукашэнкі?

**Валер Карбалевич**
**«Радыё Свабода»**

НАША МЕСЦА

# У ТРОЙЦЫ САМЫХ БЕДНЫХ НАРОДАЎ ЕЎРОПЫ

**Global Wealth Report-2013 развенчвае міф аб паспяховасці беларускай эканамічнай мадэлі.**




Швейцарскія аналітыкі з Credit Suisse прадставілі апошняе даследаванне аб сусветным багацці Global Wealth Report -2013. Аўтсайдэрамі сярод еўрапейцаў аказаліся грамадзяне Беларусі, Малдовы і Украіны — іх сярэдні гадавы даход складае менш за 5 тысяч долараў. Гэта ў 10 разоў менш, чым сярэднесусветны.

Нашы суседзі, палякі, маюць даход ад 25 да 100 тысяч долараў. Расейцы — ад 5 да 25 тысяч даляраў.

Самымі багатымі прызнаныя швейцарцы (па кошту чыстых актываў) — больш за 500 тысяч даляраў на дарослага чалавека. У дзясятку самых багатых таксама ўвайшлі жыхары Аўстраліі, Нарвегіі, Люксембурга, ЗША, Швецыі, Францыі, Сінгапура, Бельгіі і Даніі.

Аналітыкі адзначаюць, што няроўнасць застаецца вялікай: «10 % сусветнага насельніцтва валодае 86 % сусветнага багацця».

ТАКОЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

# ПАПРАЎКІ НЕ ЗРОБЯЦЬ ВЫБАРЫ ДЭМАКРАТЫЧНЫМІ

**У Беларусі прыняты папраўкі ў кодэкс аб выбарах. Цэнтрвыбаркам назваў іх адпаведнымі міжнародным рэкамендацыям. Эксперты заявілі, што лічаць змены касметычнымі.**

Палата представителей парламента Беларуси на открывшейся 2 октября осенней сессии приняла поправки в Избирательный кодекс страны. Новшества касаются порядка изменения финансирования избирательных кампаний. На выборах президента личный фонд кандидата увеличится в три раза - примерно до 100 тысяч евро. Формировать фонды можно будет со дня регистрации инициативной группы.

Выборы в парламент будут проходить только в один тур. А деньги из бюджета на агитационную кампанию, которые раньше предоставлялись кандидатам, теперь будут передаваться в местные избирательные комиссии, которые сами будут заказывать информационные листки и направлять их избирателям с сообщением о дате и времени голосования. Подчеркивается, что в этих буклетах будет обязательно указана судимость кандидата, если таковая была. Новым в законодательстве является также запрет на бойкот выборов и референдумов.

Как сообщает Центризбирком, изменения не обсуждались с экспертами БДИПЧ ОБСЕ, но разрабатывались "в духе и ключе" международных рекомендаций. По мнению же независимых экспертов и белорусских оппозиционных политиков, власти создают лишь видимость перемен.

**Принцип королевства кривых зеркал**

С законодательными поправками оппозиция не связывает никаких надежд на то, что выборы в Беларуси станут честными и прозрачными. Об этом заявил DW заместитель Объединенной гражданской партии (ОГП) Лев Марголин, подчеркнув, что такого же мнения придерживаются представители других оппозиционных структур и гражданского общества Беларуси. "В белорусских условиях срабатывает принцип королевства кривых зеркал, когда для оппонентов режима любые изменения предстанут лишь обратной своей стороной", - считает политик.

Увеличение личного фонда кандидата на президентских выборах можно было бы только приветствовать, говорит Марголин. Но при этом замечает, что никакое частное предприятие и ни один предприниматель не рискнет помогать оппозиции, потому что "подпишет смертный приговор своему бизнесу". "Если бизнесмена заподозрят в связях с оппонентами власти, то начнутся проверки со стороны налоговой инспекции, пожарных и санитарных служб. Он потеряет свой бизнес, как это было уже не раз", - напоминает оппозиционер. Отмена второго тура голосования, полагает замглавы ОГП, свидетельствует, что власти просто устали сгонять на участки граждан, для которых выборы стали формальностью, а не возможностью выбирать.

Политик обратил внимание на то, что оппозиция настаивала на трех существенных изменениях в Избирательный кодекс, из которых ни одно не было принято во внимание. Это отмена досрочных выборов, в ходе которых возможны фальсификации. Кроме того, это участие в избиркомах представителей кандидатов, а также прозрачный порядок подсчета голосов. "Все остальное - косметический глянец, важно только, чтобы европейские политики не приняли его за движение в направлении демократии", - подчеркнул Лев Марголин.

**"Фирменный подход"**

В том, что новшества никаких демократических перемен в избирательный процесс не принесут, убежден и глава Движения "За Свободу" Александр Милинкевич. "Власть чувствует себя как в осажденной крепости, и с помощью имитации, в отсутствие политических и экономических реформ, пытается представить Западу новые избирательные правила в надежде на то, что они будут соответствовать стандартам ОБСЕ", - сказал политик в интервью DW.

Но пока представителей от оппозиции не будет в избирательных комиссиях, со стороны властей - это всего лишь игра в уступки, потому что ее новые правила будут применяться избирательно, полагает Милинкевич. В то же время он уверен, что в Евросоюзе сумеют разобраться, насколько выборы в Беларуси будут соответствовать стандартам ОБСЕ, вне зависимости от того, признает Минск европейские правила или нет.

Руководитель аналитических проектов информационной компании БелаПАН Александр Класковский назвал "фирменным подходом" действия властей, выбравших из всех предложений международных экспертов по усовершенствованию избирательного законодательства те, которые "никоим образом не повлияют на белорусский механизм обеспечения элегантных побед провластных кандидатов на выборах всех уровней".

**Зачем власть "включает дурака"**

Поправки в законопроекте о выборах в Беларуси Класковский также считает косметическими. По его словам, Минск опять сделал то, что удобно ему - сама система "выборов без выбора" осталась неизменной, поскольку она "еще больше ограничит возможности для оппозиции, когда каждый рубль в фонде оппозиционного кандидата будет просвечиваться рентгеном".

В то же время политический обозреватель замечает, что само по себе действующее избирательное законодательство не является драконовским. "Но так как в законе не прописаны такие детали, как демонстрация наблюдателям каждого бюллетеня при подсчете голосов или включение оппозиционеров в избиркомы, позволяет властям "включать дурака" и отвергать требования об этом оппозиции", - объясняет ситуацию эксперт.

А Юрий Джибладзе, президент российского Центра развития демократии и прав человека и представитель Комитета международного контроля за ситуацией с правами человека в Беларуси (организации, участвовавшей в наблюдении за белорусскими выборами. - Ред.) заметил, что невозможно проводить честные кампании без изменений в области фундаментальных прав и свобод человека.

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО БЬЕТСЯ ЗА ВАЛЮТУ...

**Каждый, кто видел «Свадьбу в Малиновке», хорошо знает: атаман не атаман, если нет у него золотого запаса. Золотовалютные резервы Беларуси подтаивают, рубль приходится держать всеми правдами и неправдами.**

Вот почему суть самых резонансных высказываний **Александра Лукашенко** 28 сентября на «Дажынках» в Жлобине **сводится к вопросу валюты**.

**Во-первых**, глава государства посыпал голову пеплом за свое поставившее на уши полстраны высказывание о грядущей пошлине в сто баксов с носа за выезд за рубеж: *«Вот брякнул, себе во вред, наверное»* (да уж не наверное, а сто пудов!). Сейчас, похоже, дело идет к тому, что диковинную идею если и не похерят, то сильно редуцируют, направив острие на челноков и тех, кто будет возвращаться из шоп-туров.

Однако здесь показательно пояснение: *«Я радею не за то, чтобы запретить выезд нашим гражданам, я переживаю, что под три миллиарда долларов валюты вывозится ежегодно из страны»*. В общем, никакой диктатуры, просто с деньгами (не фантиками, а настоящими) стало туго.

**Во-вторых**, президент усиленно успокаивал народ по поводу девальвационных ожиданий, не забыв при этом укорить за беготню по обменникам. Опять ключевое слово: валюта.

**В-третьих**, Лукашенко поведал, что люди, которые хотят купить «Уралкалий», «дают нам сигнал к тому, что белорусы, подождите немножко, мы все равно будем вместе». А продажа калия — это тоже живая валюта.

Итак, **проблема валюты, золотого запаса**, то есть материального фундамента власти, очевидно подпирает. И особенно дискомфортна она сейчас, когда уже маячат на горизонте новые президентские выборы...

**А город подумал — ученья идут**

Отдельные вопросы: почему за два десятилетия независимости в Беларуси не смогли создать свой сильный менеджмент в этой сфере и почему блюстители национальной безопасности не просчитали дерзкий ход основного владельца **«Уралкалия» Сулеймана Керимова**, разорвавшего в конце июля картельное соглашение?

В итоге ситуацию пришлось спасать в фирменном стиле белорусских властей — взяв де-факто в заложники прилетевшего в Минск на переговоры гендиректора российской компании Владислава Баумгертнера. Благо что Путин на открытую войну не пошел и предпочел разрулить ситуацию келейно.

Аналитики предполагают: в частности, ссору быстро притушили и потому, что **«Уралкалий»** в итоге может быть перекуплен кем-то из близких к Кремлю олигархов. В этом контексте назывались, в частности, фамилии Аркадия Ротенберга, Игоря Сечина, Владимира Когана. К слову, последний, по сведениям российских источников, готов, если сделка состоится, взять на себя выплаты белорусской стороне для урегулирования конфликта.

Вот это действительно маневры, не чета войнушке российско-белорусского войска с мифическими бандформированиями, якобы въехавшими на джипах в пределы союзного государства. И не по поводу ли калийного дела Путин бросил Лукашенко на прощание свое «созвонимся» на полигоне под Калининградом?

**Склеят ли разбитый кувшин «Уралкалий» и Минск?**

Впрочем, кто купит долю Керимова, еще вилами по воде писано. А в принципе, насколько реально, что потенциальный новый собственник «Уралкалия» возобновит сотрудничество с «Беларуськалием»?

«В первом приближении это было бы логичным — в силу специфики рынка», — отметил в комментарии для Naviny.by **минский экономист Сергей Чалый**. Он пояснил: калийные удобрения — не биржевой товар, цена здесь всегда есть результат переговоров, *«потому либо создание картелей, либо некое согласование сбытовой политики разумно»*.

Однако не все так просто, как кажется. *«После развода для «Уралкалия» просматривается и другой вариант»*, — добавил аналитик. Дело в том, что в силу географии поставок эта компания претендует на доминирующее положение в Азии. Из крупных же покупателей как раз только Китай и Индия практикуют заключение длинных контрактов, например на полгода; на полгода плюс опцион еще на полгода (в то время как в Америке преобладают спотовые сделки).

Чалый обращает внимание и на то, что недавно китайский фонд конвертировал облигации «Уралкалия» в 12% акций, а это позволит китайцам претендовать на одно место в совете директоров. *«И понятно, что их представитель не будет заинтересован в усилении совместных позиций продавцов удобрений»*, — полагает собеседник Naviny.by.

*«Так что — либо сильный вариант с координацией сбыта, и не обязательно в виде картеля, либо слабый в виде раздела рынков и все равно — отказа от конкуренции между собой»*, — прогнозирует эксперт.

**Интеграция по принципу «кось-кось — да в оглобли»**

Возобновить сотрудничество особенно важно сегодня белорусской стороне. «Для самостоятельного сбыта у нас просто нет нужного количества спецов должного уровня», — говорит Чалый. Идеальным вариантом было бы вообще создать СП, считает аналитик. По его версии, в свое время *«Керимову же, в принципе, и дали купить «Уралкалий» с миссией консолидации калийных активов бывшего СССР»*. Не случайными в этом контексте были и попытки создать такую структуру, как «Союзкалий».

Впрочем, маловероятно, что теперь удастся создать СП, — *«в силу того, что российская часть все-таки будет частной»*, считает собеседник. В целом же перспективы возобновления сотрудничества тем реальнее, «чем более питерским будет новый собственник», заключил аналитик.

И последнее: а зачем, собственно, российскому президенту разгребать калийную проблему? Чалый объясняет это тем, что *«Путина интересует «интеграция» в любых видах»*.

Да, сегодня, когда российский лидер явно умасливает Лукашенко, держа в голове подписание договора о Евразийском союзе, Минску можно снять кое-какие сливки. Но внешнее миролюбие Путина в калийном вопросе отнюдь не означает, что Москва решила заниматься филантропией по отношению к белорусскому партнеру. Интеграционную философию российских элит метко отражает русская же поговорка **«кось-кось — да в оглобли»**.

**Девальвацию накаркает «пятая колонна»?**

Ну а белорусский президент не был бы самим собой, если бы не попытался перевести стрелки. Оказалось, что угроза девальвации объясняется не тем, что напечатали до черта пустых денег, а тем, что народ предпочитает заграничный товар, ломится в обменники за СКВ. Ну и отдельной строкой — *«наши негодяи, «свядомыя», которые «плявузгают» языками во всех средствах массовой информации»*.

Риторический вопрос: **с каких это пор оппозицию пустили во все СМИ**? На самом деле, естественно, рупоры остаются в тех же руках, просто могучая машина госпропаганды крутится вхолостую. Обыватель, который хорошо помнит, как после убаюкивающих речей обваливался рубль, и без «пятой колонны» кумекает, что к чему.

Народ видит: у атамана все хуже с золотым запасом, чудесных рецептов исцеления экономики нет, наращивание же долгов (у кого только не нахватали уже кредитов!) вылезет боком. А потому если не перед выборами-2015, то после них народ все равно обдерут, чтобы залатать дыры плохого хозяйствования.

**Александр Класковский**
**"Белапан"**

ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС

# «... КІПІЦЬ НАШ РОЗУМ АБУРАНЫ»

**Тлумачачы нашы праблемы, Лукашэнка ў апошні час часта спасылаецца на сусветны фінансавы крызіс. Ці праўда, што крызіс ўсюды, у экспрэс -каментары«Салідарнасці » патлумачыў эканаміст Леанід Заіка.**

Маючы зносіны з працоўным калектывам **ААТ «БелАЗ»** у аўторак, Лукашэнка звярнуў увагу на крызісную сітуацыю ў сусветнай эканоміцы. Паводле яго слоў, калі крызіс скончыцца, Беларусь павінна выглядаць прыстойна.

У сераду **на нарадзе па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця** кіраўнік дзяржавы зноў успомніў пра сусветны крызіс. Праўда, заклікаў чыноўнікаў не спісваць на яго праблемы: *«наракаць ўвесь час на свет і сусветны крызіс не прыстала»*.

А вось цытата Лукашэнкі **на «Дажынках» у Жлобіне**: *«Вы ведаеце, што сітуацыя была ў эканоміцы няпросты. Бушуе сусветны крызіс, вы бачыце, што робіцца па ўсім свеце»*.

Ці сапраўды ў свеце бушуе крызіс, **«Салідарнасць»** пацікавілася ў **кіраўніка аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леаніда Заікі**.

*-Калібкожныбеларусвыпісваў часопіс Economist, ён сказаў бы: «Джэнтльмены, усё на самой справе не так», - адзначыў суразмоўца. - Сапраўды існуюць праблемы, звязаныя з фінансавай устойлівасцю шэрагу краін, такіх, як Грэцыя, Іспанія, Партугалія - краін, дзе прывыклі жыць, як кажуць у Беларусі, на халяву. Там людзі атрымліваюць заробкі большыя, чым зарабляюць.*

*А вось у Нямеччыне нічога такога няма. Дарэчы, цікава, чаму нашы грамадзяне стаяць у чарзе па візы ў Германію, Літву і Польшчу, бо навокал крызіс?*

Эксперт прыводзіць прыклад: *«Самыя высокія тэмпы прыросту ВУП - у Кітаі, Бразіліі, Інданезіі - па 5-7 %. У СНД высокія тэмпы прыросту (па 6-7 %) у Таджыкістане, Туркменістане, Узбекістане. У еўразоне прырост ад 0,6 да 2-3%. А ў нас, на жаль, усяго толькі 1 % прырост ВУП. І падзенне прамысловай вытворчасці на 5%. У той жа час зарплата ў нашай краіне павялічылася на 20%.»*

На думку **Леаніда Заікі**, Беларусь перажывае **крызіс адноснай перавытворчасці**.

*- Таварныя запасы павялічыліся да 75% ад месячнага выпуску, а былі на ўзроўні 40%. Мы выпускаем прадукцыю, якая нікому не патрэбна. У гэтым годзе мы прадалі за мяжу тавараў на 20% менш. Наша прадукцыя неканкурэнтная, ды і кошты на сусветных рынках зніжаюцца. А наконт таго, што недзе нешта бушуе, так гэта кіпіць наш розум абураны*, - іранізуе аналітык.

**Таццяна Гусева**
**"Салідарнасць"**

ТАКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЛУКАШЭНКА ХОЧА Ў АЗІЮ, А БЕЛАРУСЫ – У ЕЎРОПУ

**Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення саміту лідараў краін СНД у Мінску 24–25 кастрычніка заявіў пра прыярытэт еўразійскай інтэграцыі.**

*"Для нас развіццё еўразійскай інтэграцыі з'яўляецца адным з прыярытэтных напрамкаў у дзяржаўнай знешняй палітыцы"*, - сказаў кіраўнік краіны.

Лідар Руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч** кажа, што *"гэта Лукашэнка хоча ў Азію, а беларусы, дзякуй Богу, збольшага хочуць у Еўропу".*

*"Ён - вялікі аматар СССР, а сярод нашых грамадзянаў прыхільнікаў вяртання ў камуністычны рай амаль не засталося. Лукашэнка - чалавек мінулага, а беларусы думаюць пра будучыню сваіх дзяцей і ўнукаў. У нас розныя дарогі"*, - сказаў Мілінкевіч у інтэрв'ю ***Рух.by***.

Па дадзеных апытання НІСЭПД у верасні гэтага года, пры неабходнасці выбару на гіпатэтычным рэферэндуме паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у Еўрапейскі Саюз за першы варыянт выказваюцца 35,6%, а за другі 42,4% беларусаў.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.10.2013 у 17.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.